# ЗАРАНКА

ІЛЮСТРАВАНАЯ ЧАСАПІСЬ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ.

Год IV. Вільня, Сакавік 1931 № 2.




Малады Дзядок.

## „Засьмяецца вясна"!..

Засьмяецца вясна, а з блакітных нябёс
Блісьне коскамі — золатам сонца;
Уміг прагоніць зіму, што дакучыла нам,
І загляне у наша ваконца.

Із далёкіх краёў, із-за сініх мароў
Пачнуць птушкі — пяюшкі зьбірацца
З песьняй звонкай ляцець да старонкі сваёй,
У косках сонейка грэцца — купацца.

Ад зары да зары над загонам сваім
Жаўрук сьпевамі гожа зальлецца... —
Вось і ў нашых грудзёх пад напевам вясны,
Жыва, радасна сэрца заб'ецца...

Пачакайма-ж яшчэ: прыдзе, прыдзе вясна,
Адпачынем па грозных завеях;
Лес, лагі зацьвітуць, закрасуюць палі,
З паўдня цёпленькі ветрык павее...

Віталі Біанкі.

# Лясныя хаткі.

Жоўты маленькі Будаўнічок жыў у траве якраз пад тэй самай бярозай, дзе вісела паветраная калысачка Івалгі.

Паўзьбярэжцы вельмі спадабаўся яго шалашык з сухое травы і моху.

— Вось дзе добра!—узрадавалася яна. — Тут і падлога, і сьцены, і дах, і ложак з мяккога пер'я! Зусім як у нас ў хаце.

Ласкавы Будаўнічок пачаў яе ўкладваць спаць. Раптам зямля пад імі задрыжала, загудзела.

Паўзьбярэжка спалохалася, прыслухоўваецца, а Будаўнічок ёй кажа:

— Гэта коні ў гай скачуць.

— А вытрымае ваш дах,—пытае Паўзьбярэжка,— калі конь на яго капытом наступіць?



Будаўнічок толькі галавой сумна паківаў і нічога ей — на гэта не адказаў.

— Ой, як жудасна тут!—сказала Паўзьбярэжка і ў момант выпырхнула з шалаша.

— Тут я ўсю ноч вачэй не зачыню: усё буду думаць, што мяне раздушаць. У нас у хаце бясьпечна: там ніхто на цябе не наступіць і на зямлю ня скіне.

— Дык, мабыць, у цябе такая хата, як у Чомгі, — дагадаўся Будаўнічок.—У яе хата не на дрэве—вецер яе ня зьдзьмухне дый не на зямлі—ніхто не раздушыць. Хочаш праваджу цябе туды?

— Хачу!—кажа Паўзьбярэжка.

Паляцелі яны да Чомгі.



Прыляцелі на возера і бачаць: пасярод вады на чаротавай высьпе сядзіць птушка з вялікаю галавою. На галаве ў птушкі пер‘я старчма стаіць—быццам маленькія рогі.

Тут Будаўнічок з Паўзьбярэжкаю разьвітаўся і паказаў ёй да гэтае рагатае птушкі начаваць прасіцца.

Паляцела Паўзьбярэжка і села на выспе. Сядзіць і дзівіцца: выспа, аказваецца, плывучая.

Плыве па возеры куча сухога чароту. Пасярод кучы—ямінка, а дно ямінкі мяккой балотнай травою выслана. На траве ляжаць Чомгавы яйкі, якія прыкрыты лёгкімі сухімі чароцінкамі.

А сама Чомга рагатая сядзіць на высьпе з беражку і разьяжджае на сваім судзенцы па ўсім возеры.



Паўзьбярэжка расказала Чомзе, як яна шукала і не магла знайсьці сабе начлегу і папрасілася начаваць.

— А табе ня боязна будзе спаць на хвалях? — пытае яе Чомга.

— А ці-ж ваша хата ня прыстане на нач да берагу?

— Мая хата—не параход,—кажа Чомга, — куды вецер гоніць яе, туды яна і плыве. Так і будзем усю ноч на хвалях зыбацца.

— Боязна...—ледзь чутна прамовіла Паўзьбярэжка. — Да хаты хачу—да маткі...

Чомга раззлавалася.

— Вось,—кажа,—якая выбрэдная. Ніяк ёй не дагодзіш. Ляці ты лепш ды пашукай сама сабе хаты, якая табе падабаецца. Выгнала Чомга Паўзьбярэжку,— тая і паляцела.

Ляціць і плача.

А ўжо ноч падыходзіць: сонца зайшло, цямнеецца.

Заляцела Паўзьбярэжка ў густы лес, бачыць: на высокай ёлцы, на таўстой галіне пабудавана хата.

Уся з рагацця, з палак,—круглая, — а ў сярэдзіне мох тарчыць—цёплы, мяккі.

„Вось прыгожая хата,—думае яна,—моцная і з дахам.

Падляцела маленькая Паўзьбярэжка да вялікае хаты, пастукала дзюбкаю ў сьценку і просіць жаласьлівым такім галаском:



— Пусьцеце, калі ласка, гаспадарыку, пераначаваць

А з хаты раптам як вытаркнецца рудая морда страшнога зьвяра з натапыранымі вусамі, з жоўтымі зубамі.

Ды як зарыкае страшыла.

— З якога гэта часу птушкі ўначы стукаюць ды начаваць просяцца да вавёрак у хату?

Абамлела Паўзьбярэжка, — сэрца камянём звалілася. Шаснула ў бок, узьвілася над лесам ды кулем, бяз возірку, наўцекі!

Ляцела, ляцела,—зусім зьнясілілася. Адвярнулася назад—нікога ззаду няма.

Наўкола агледзелася, а месца знаёмае. Паглядзела ўніз—унізе рэчка цячэ, свая рэчка, родная.

Куляй кінулася ўніз да рэчкі, а адтуль — уверх, пад самую кручу спадзістага берага.

І зьнікла.

А ў кручы—дзіркі, дзіркі, дзіркі. Усё гэта ластаўчыны норкі.

У адну з іх і шмыгнула Паўзьбярэжка. Шмыгнула і пабегла па доўгім-доўгім, вузкім-вузкім калідоры.

Дабегла да яго канца—і ўскочыла ў прасторны круглы пакой.

Тут ужо даўна чакала яе матка.

Соладка спалася ў тую ноч зморанай маленькай Паўзьбярэжцы ў сябе на мяккой, цёплай пасьцелі з травінак, конскага воласу і пер'я.



Дабранач!

# Як Раманка з дазволу таты спаліў боты.

Раньняе зімовае зьмерканьне прыгнала дзетвару ў хату. Убягаюць адсьвежаныя, румяныя; здароўе б'е з вачэй. Уносяць з сабой ясную жыцьцёвую радасьць. Вясёлы крык напаўняе цёплую хату.

Марылька насуха выцірае бліскучыя канькі, Астап ставіць у кутку за шафай лыжы, а наймалодшы Тарас, цягае з кутка ў куток саначкі, якім ніяк ня можа знайсьці прыпынку. Урэшце і ён даецца ўгаварыць бабулі, што пад сходамі будзе [illegible] саначкам выгадна і бясьпечна.

— А цяпер пагуляем у пера[illegible]гонкі! — кажа Астап, скідаючы засьнежаныя чаравікі.

За яго прыкладам ідуць сястрычка і браток. Паскідалі абутак каля печы, каб сох, дый давай гарцаваць у суконных хадачках.

Маладзенькі месячык заглядае ў вакно. Скрозь адхіленыя ў печ дзьверцы б'е на хату яснае полымя. Нікому ня хочыцца паліць сьвятла. У перадсьвяточным вечары ня сьпешна дзецям да кніжкі. Гуляюць, а бабуля, заглядзіўшыся ў полымя печы, утанула ў успамінах, ды зайшла аж у свае дзіцячыя гады. Успаміны разьясьнілі пагараны зморшчкамі твар і ўсмехам прыбралі вусны.

Дзеці знаюць гэты настрой бабулі, вось Марылька просіць шчыранька:

— Раскажы, бабулька, пра даўніну!

Бабуля быццам чакала запросінаў, бо паскладаны каля печы абутак прыпамінаў падзею, якую хацела расказаць унукам.

Было гэта паўсотні гадоў таму назад. Зіма стаяла на дварэ такая, як цяпер. Толькі дзецям тады ня так жылося, як цяпер. Ня было сёньняшняй сьвядомосьці: як добра ўплывае на здароўе сьвежае зімовае паветра. Усе верылі, што „ніхто яшчэ не перагрэўся, але прастудзіцца можа кожны“.

У выніку такога пагляду бацькоў, дзеці тых часоў, замест ужываць зімовых спортаў, мадзелі зачыненыя ў памяшчэньні, нудзячыся праз усю зіму. Вось-жа ня дзіва,

што з нуды ня раз прыдумывалі розныя самавольствы, а то й ня хочачы рабілі шкоду. Ацец Д. парох (уніяцкі ксёндз) Вялікага Хадачкова, на шырокім Падольлю, вярнуўся з Ёрданскага вадохрышча. Сільны мароз з праніклівым падольскім ветрам да касьцей праняў яго ў часе набажэнства над ракой. У дадатку новыя боты сьціснулі ногі такшто амаль яны не закасьцянелі. З прыемнасьцю разуўся перамерзшы ацец Д. у цёплым пакоі, і, надзеўшы выгадныя туфлі, паставіў боты каля печы. Быццам для давяршэньня адпачынку па працы прынёс пашталіён пошту, якую ў тойчас прывазілі з Тарнополя два раза ў тыдзень Ацец Д. сеў выгадна на мяккім фотэлі і ўзяў у рукі „Діло“ Выцягнуў пад дзеяньне цяпла ногі, што плыло на пакой ад агня ў печы і углыбіўся ўвесь у чытаньне газэты.

Чатырохгадовы Раманка, які страшэнаа нудзіўся ў хаце, ня вельмі задаволена глядзеў, што тата замест пагаварыць з ім, як звычайна, засланіўся газэтай, забыўшыся пра малога сынка. Некаторы час хлопчык прыглядаўся як пад уплывам хатняга цяпла таялі на вокнах маляваная марозам кветкі, але калі яны пад уплывам таяньня страцілі сваю featherрознаякасьць, увагу Раманкі заняла трэскагня ў печы. Там ясна гарэлі бярозавыя дровы, а прыемны пах выходзіў на хату праз недачыненыя дзьверцы. Хлопык прысеў каля печы на маленькім зэдлічку. Стараўся ўцягнуць бацьку ў гутарку, але дарма.

— Чаму агонь гарыць?—пытаецца хлопчык.

Маўчаньне замест адказу.

— Тата, тата! Глядзі, а на палцы белая папера! — кліча Раманка, абрываючы з бярозавых паленаў кускі бяросты.

— Дай мне спакой! — збывае яго бацька, з нецярплівасьцю заглыбляючася ў чытаньні нечага вельмі цікавага.

Кінуў хлопчых дровы. Узяўся за бацькавыя новыя боты.

— А ці яны гарэлі-б?—пытаецца таты. У адказ ізноў маўчаньне. Цікавасьць дзіцяці астаецца. А ну папрабаваць! Адчыніў дзьверцы печкі. Дровы перагарэлі. Якраз ёсьць месца на бот. Але Раманка ўжо ведае, што ў старэйшых трэба пытацца дазволу.

Тата, можна ўпхнуць?——пытаецца з ботам у ручках.

Ацец Д. якраз разлажыў „Діло“, якое тады мела два

разы такі фармат як цяпер. Часапісь засланіла яму ўвесь твар. Надзвычай цікавы артыкул зусім захапіў чытача.

Пхні! Пхні!—патакуе ён сыну з тэй думкай, што Раманка пхае ў печ бярозавае палена.

Хлопчык рад з дазволу, не дае сабе паўтараць. Полымя абняло бот. Мазь на боце пачала тапіцца, скура засквірчэла, скорчылася, а там занялася цёмна-бранзовым агнём.

Тата, ужо гарыць!—кажа, Раманка.

Добра, добра!—патакуе тата з-за газэты.

Тата, я ўпхну другі!

Пхні, пхні!—патакуе тата ізноў.

І Раманка паслушна суне ў печ другі бот. Але гэтым разам справа ня лёгкая. Неперапаленая яшчэ халява першага бота ніяк ня пушчае другога. Хлопчык пхне з усяе сілы. Разагрэты ад агня тварык пачырванеў, лоб з натугі пакрыўся каплямі поту. Але ўсё дарма.

— Тата! Ня хоча лезьці! – жаліцца хлопчык, а пасьля скрозь слёзы кліча на ратунак!

— Тата! Памажы! Бо пячэ!

Спалохаўся тата думаючы, што дзіця сьпячэ сабе ручкі, кінуў „Діло“ і да Раманкі. З роспаччу пабачаў, што з яго новых ботаў асталася цэлай толькі адна халява.

Дасталося-б Раманку і ад жэўжыкаў і ад шкоднікаў, але на шчасьця прыпомніў сабе тата, што дзіця пыталася ці пхаць, а ён патаківаў.

Ня было рады. Трэба было думаць аб новых ботах, а о. Д. колькі разоў успомніў пра Раманкаву штуку, заўсягды ўспакойваў сябе словамі: „Усё адно—ціснулі...”!

Змоўкла бабуля. Дзеці, разбаўляныя расказам, глянулі на свае чаравікі каля печы ды хутчэй да Тарасіка.

— Глядзі, не забаўся часам у Раманку!

А Тарас горда:

— Раманку ня пушчалі на двор! А я маю саначкі. На што-ж мне пхаць боты ў печ?

**„Світ Дитини“.**

Мік. Ільяшэвіч.

# Як жылі нашы продкі у мінуўшчыне.

(Глядзі пачатак у № 1).

## 2. Зямля цяпер і даўней. Першыя вестні аб чалавеку.

Перад тым, як перайсьці да агляду жыцьця нашых продкаў, мы троху затрымаемся ў гэтым разьдзеле над тымі агульнымі досьледамі адносна выгляду нашае зямлі цяпер, яе жыцьці даўней і часе зьяўленьня першых людзей,

Ужо ніхто з нас ня сумліваецца ў тым, што зямля мае кулісты выгляд. Зямлю можна аб'ехаць навокал хутка і лёгка, бо акружыня яе выносіць усяго каля 40 тысячаў кілямэтраў. Географія нас навучае і аб тым, што куля наша (паверхня якой выносіць 510 мільёнаў км.$^2$) складаецца з вады і сухаземі, пры чым вады ў два з паловай разы болей за сухазем. Паверхня зямлі вельмі няроўная, што зрэшта мы можам самі спасьцерагаць. Калі можна было-б узяць найвялікшую на зямлі гару Эвэрэст, што знаходзіцца ў Азіі, і ўставіць яе ў найглыбейшае мейсца ў моры, дык гэтая гара, маючая каля 9-ёх кілямэтраў у вышыню, схавалася-б у гэтым найглыбейшым мейсцы, бо яно мае глыбіні 10 кіламэтраў.

Непраходныя праз доўгі час пустыні і лясы, вечна халодныя або гарачыя краіны, дзеючыя і пагасшыя вульканы, розныя землі з іх жывёламі, расьлінамі і людзямі, землетрасеньні ды іншыя зьявішчы прыроды, — усё гэта доўга дзівіла ды затрымоўвала ўвагу чалавека. Дасьледжваючы зямную кулю і адгадваючы тайны прыроды чалавек памалу, гэтым самым апаноўваў гэту прыроду і рабіўся яе гаспадаром. Ён з даўных часоў імкнуўся пазнаць ня толькі тайны прыроды, але апанаваць яе сілы і скіраваць іх на сваю карысьць. Цяпер людзі любуюцца сваёй краінай, гарыстымі, вазёрнымі, морскімі або іншымі краявідамі, з якіх адны вабяць наш узрок, іншыя адзначаюцца сваёй панурасьцю.

Разглядаючыся навокал свае краіны, у кожнага з нас

паўстае пытаньне: — ці гэткі самы малюнак краявіду існуе спрадвеку?

— Вос-жа навука аб мінуўшчыне зямлі, якая завецца геолёгія, дае нам наступны адказ:

— Краявіды, якія мы спасьцерагаем у пераважнай большасьці існуюць даўна, але не спрадвеку. Краявіды з бегам вельмі доўгага часу зьмяняліся. Геолёгія навучае нас, што зямля наша шмат, шмат міліёнаў гадоў таму назад была ў растопленым вогніста-газавым стане. На гэтую думку наводзіць вучоных геолёгаў гой доказ, што й зараз час ад часу з вульканаў выбухае вагністая лява. Мала-памалу гэта круцячаяся вогністая маса пачала астываць і прыймаць форму кулі, на якой стала тварыцца цьвёрдая паверхня.

Зразумела, у гэтыя першыя часы жыцьця нашае кулі ня было нат' ніводнае жывое істоты. Астываючы, паверхня зямная лопалася, карабацілася, ад чаго паўсталі горы, даліны і г. д.

Пласт астыўшае паверхні зямлі быў вельмі ценкі, так што з сярэдзіны зямлі няраз прабівалася агністая маса і перарабляла раней утвораны выгляд паверхні. Ня раз там, дзе была вада паўставала сухазем і наадварот, паўставалі горы, рэкі мянялі свой кірунак і г. д. З бегам даўгога часу пачынае зьяўляцца жыцьцё на зямлі. У вадзе і на зямлі жывуць ужо вельмі простыя і маленькія жывёлы, ці то рыбы, якія пазьней ператвараюцца ў вельмі і вельмі вялікіх і страшных жыхароў зямлі, вады і лясоў.

Тагачасная жывёла і расьліны мала падобныя да сучасных. З працягам часу адных—меншых замянялі большыя і дасканальнейшыя, тых яшчэ большыя і яшчэ больш дасканальныя. Потым наступіла зьмяншэньне і выміраньне гэтых цікавых гатункаў. Часта і цяпер у зямлі знаходзім пад таўстымі пластамі адкладаў розныя шкілеты—і паводле іх уяўляем сабе выгляд тагачасных зьвяроў, яшчарак-велітняў і г. д.

Сучасныя пароды сталі меншыя, драбнейшыя, дый то страшэнна нішчацца людзкою рукой.

Амаль-што няма ўжо непраходных лясоў, дрэвы якіх калісьці як горы сягалі ў вышыню; няма ўжо аграмадных зьвяроў, як напр. Мамутаў ды яму падобных, якія йдучы па лесе, сваімі моцнымі, як ствол дрэва нагамі, пракладалі

цэлыя дарогі, а рагамі маглі падкідваць медзьвядзёў, як трэскі. Вялікае мноства зьвяроў, гадыняў, розныя драпежныя вялізарныя птушкі, прыгрэтыя гарачымі праменьнямі сонца—былі панамі тагачаснай зямлі. Чалавека тады яшчэ ня было. Зьявіўся чалавек значна пазьней, калі прырода стала больш бясьпечнай і спрыяючай для яго жыцьця. Дый сам чалавек на прадвесьні свае гісторыі мала розьніўся спосабам свайго жыцьця ад зьвяроў, асабліва ад чалавекападобных малпаў.

Жыў ён у вечнай небясьпецы перад зьвярамі ды іншымі сіламі прыроды, хаваючыся ў пячэрах і закладаючы ўваход каменьнем, бярвеньнем і іншым матэрыялам.

Вучоныя думаюць, што чалавек зьявіўся на зямлі вельмі нядаўна ў параўнаньні да часу існаваньня яе, а ласьне троху больш, як паўміліёна гадоў таму назад—у той час, як паводле аблічэньняў вучоных, зямля існуе некалькі сотняў мільёнаў гадоў.

Зьяўляецца чалавек на зямлі ў гэтак званы ледавіковы час, г. ё. у час, калі ўся наша Бацькаўшчына Беларусь, Паўночная Эўропа і Паўночная Амэрыка былі пакрытыя лёдам і сьнегам. Ад чаго гэтак раптоўна зьмяніўся клімат з гарачага на халодны, вучоныя яшчэ ня зусім дакладна выясьнілі.

Агульна прынята лічыць за прабацькаўшчыну людзей: Паўднёвую Эўропу, Паўднёвую Азію і Паўночную Афрыку. Краіны гэтыя — цёплыя. Тут удалося знайсьці сьляды першабытнага чалавека. Адсюль людзі потым расходзіліся памалу па ўсім сьвеце. А як пачаў таяць ледавік, які пакінуў нам Беларусам шмат прыгожых вазёраў, прышоў да нас першы, яшчэ напалову дзікі чалавек. Першабытнаму чалавеку ў цёплым краі ня прыходзілася шмат турбавацца аб ежы, адзежы і хаце. Жыў ён свабодна, але ўсьцяж мусіў быць прыгатаваны да абароны і барацьбы з дзікімі зьвярамі і прыродай.

(Працяг будзе).

# Прыгоды аднэй жабы.

(Працяг).

**Расказ праф. Ф. Мюльлера.**

Пераклаў А. В.

Жаба вельмі пражорлівая. Колькі, бывала, яе мы не накормім удзень—іншы раз яна праглыне да сотні мух, жучкоў і іншай жамяры,—а ўвечары глядзім, ізноў выходзіць на паляваньне. Апэтыт, што й казаць, зайздросны. Дзякуючы сваей пражорлівасьці, жабы страшэнна раздуваюцца і ледзь могуць рухацца. Пры гэтым яны ня вельмі разьбіраюцца ў ежы. Усё, што поўзае і лётае ды ня вельмі вялікае для губы жабы, бяз сьледу зьнікае ў ей. Жабе не падабаецца толькі шорсткая жамяра.

Раз увечары наша жаба сядзела пад кусточкам. Спалоханы намі казельчык скочыў у кусты. Жаба кінулася за ім і злавіла яго. Гэтым разам яна не адразу справілася з калючым і біўшымся казельчыкам.



Доўга з губы вісела лапка беднага; нарэшце, пасьля некаторых натугаў, жабе ўдалося праглынуць непакорную ахвяру.

У чэрвені зьявіліся сьветлячкі. Хлопчыку прышла ў галаву думка пажартаваць над жабай. Ён пасадзіў сьветлячка ў маленькую бутэлячку і палажыў у траву. Сьветлячок адразу зьвярнуў увагу жабы. Мы з цікавасьцю сачылі за тым, што будзе. Жаба падпаўзла да сьветлячка так

блізка, што сьвятло ад яго асьвечвала яе шыйку і грудзі. Як толькі сьветлячок крануўся, жаба высынула язык і нават піхнула ім бутэльку. Вачавідна, ей здалося, што яна праглынула сьветлячка, а сядзеўшага ў бутэльцы чарвяка ўважала за іншага. Некалькі разоў жывёла паўтарала тое самае, кожны раз тоўхаючы языком бутэльку і выабражаючы, што яна глытае чарвячка.

Мы не маглі ўтрымацца ад сьмеху. Нарэшце, жаба мусіць дагадалася, што яе ашуківаюць, адвярнулася і паскакала.

Калі паляваньне жабы было менш удачнае, жаба ўзлазіла нават на сьцены і платы, каб лепш высачыць здабычу; часамі яна станавілася на заднія лапкі і падпільноўвала зьвярыну.

Да нас яна так прывыкла, што ня толькі ад нас не ўцякала, а, наадварот, нават прыбліжвалася да нас. Яна, аказалася, пазнавала нас нават па голасе. Варта было сьвіснуць, каб яна зьявілася на наш кліч, хоць, праўда, ня вельмі пасьпешна. Жабы не ўладаюць здольнасьцю быстра рухацца. Пачуўшы сьвіст, жывёла лыпала вачыма і пачынала непакоіцца, потым ціханька паўзла часамі вельмі сьмешна цярэбячы пярэдняй лапкай за вухам.

(Далей будзе).

# КУТОК СЬМЕХУ

## ДАДУМАЎСЯ.

Познай ноччу ехаў з мястэчка стары жыд Бэрка з сваім сынам Янкелям. Янкель кіраваў каня, а Бэрка разваліўся ў задзе ваза ды храпнуў. Па нейкім часе ён збудзіўся і ўгледзіў, што Янкел сьпіць.

— Янкел, а Янкел, чаму ты сьпіш?

— Ды я зусім ня сплю — адказаў Янкель на палову праз сон.

— А што ты робіш?

— Я думаю.

— А што ты думаеш?

— Куды гэта сонца дзяецца, як за горку хаваецца.

— Ну, думай, думай, але ня сьпі!

Праехалі яны кавалак дарогі. Бэрка ізноў пытаецца:

— Янкел, што ты робіш?

— Я думаю—адказаў Янкель.

— А што ты думаеш?

— Куды гэта зямля дзяецца, калі палачкаю ткнуць.

— Ну, думай, думай, але ня сьпі!

Цераз нейкіх пяць мінют ізноў пытаецца Бэрка ў сына:

— Янкел, што ты робіш?

— Я думаю.

— А што ты думаеш?

— Я думаю: Чаму гэта газа, хоць мокрая, але гарыць?

— Ну, думай, але ня сьпі.

Бэрка ізноў разлажыўся ў вазе, а Янкель сядзеў, сядзеў, ды заснуў.

Бэрка ізноў збудзіўся ды пытае:

— Янкел, што ты робіш?

Янкель схамянуўся ды зараз-жа адказвае:

— Я думаю.

— А што ты думаеш?

— Я думаю, дзе гэта наша кабыла; перш была, а цяпер няма.

Народная казка.

Запісаў А. Б.

## Разгадкі загадак з кніжкі І-ай.

Круцігалоўка.

1. эгіпТалёг
2. УкрАіна
3. паРом
4. мАк
5. пяСок
6. вяНок
7. сумАтра
8. шоПат
9. сакАвік
10. паРог
11. соНка
12. сарАнча
13. соСна
14. вілЕйка

Загадкі.

1. Лаўка.
2. Восьмы год.
3. Люстра.
4. Серп.
5. Снапы.
6. Млын.

## ЗАГАДКІ.

1. Чатыры чатыркі, дзьве растапыркі, адзін вярчун' адзін варчун. Што гэта такое?
2. Вісіць сіта, нярукамі зьвіта?
3. Кланяецца, кланяецца, прыдзе дамоў—расьцягнецца?
4. Хто ходзіць над намі ўверх нагамі?

## ЗАДАЧА.

**Па грыбы.** Дзед пашоў з сваімі 4-мя ўнукамі ў лес па грыбы. Усе разыйшліся ва ўсе бакі і пачалі шукаць грыбоў. Цераз паўгадзіны дзед прысеў на пні і пералічыў свае грыбы; было іх 45 штук. Тут прыбеглі да яго ўнукі, усе з пустымі рукамі ды пачалі прасіць у яго грыбоў, каб кошычкі ня былі пустыя. Дзед раздаў ім усе свае грыбы, а потым ізноў усе разыйшліся і сталася наступнае: Адзін хлопчык знайшоў яшчэ 2 грыбы, другі 2 згубіў, трэцьці знашоў яшчэ столькі, колькі атрымаў ад дзеда, а чацьвёрты згубіў палавіну атрыманых ад дзеда. Гэткім чынам, калі дзеці прышлі дамоў і пералічылі свае грыбы, аказалася, што ўсе яны маюць адзінакавы лік. Колькі грыбоў атрымаў кожны ад дзеда і колькі меў кожны прышоўшы да хаты?

Падаў **А. Б.**

Рэдактар: Л. ВОЙЦІКАВА. Выдавец: „Аб'яднаньне Бел Жанчын“
Друкарня Я. Левіна, Вільня Нямецкая 22.

# НАША ПОШТА.

Ступчыку Сьцяпану. — Вельмі нас цешыць, што Табе гэтак спадабалася „Заранка". Высылаем яе з першага № і чакаем падпіскі.

Пятру Прадуху. — Падпіску ад Вас атрымалі. Дзякуем. Будзем высылаць „Заранку" тым ахватней, што ведаем з якой нецярплівасьцю Ваш сынок яе чакае.

Б. Асташыну. — Падпіску атрымалі, дзякуем. „Заранку" высылаем з № 1-га г. г.

„Чайцы". Апавяданьне: „Як дзеці рабілі бабу" атрымалі, але ня можам зьмясьціць з тае прычыны, што Ты не падаў ані свайго прозьвішча, ані адрасу, што рэдакцыі патрэбнае. Апрача таго будзем зьмяшчаць толькі працы нашых падпішчыкаў.

М. Яцкевічу. Прачытай папярэдні адказ.

Зьмітру Болтуцю. Падпіску атрымалі, дзякуем. Дзьве з паміж прысланых загадак старыя. Прысылай новыя. Працяг народнай казкі прышлі, як прачытаем усю можа і зьмесьцім.

# „ЗАРАНКА“

Ілюстраваная часопісь для дзяцей.

Выходзіць кніжкамі.

ПАДПІСНАЯ ЦАНА З ПЕРАСЫЛКАЙ:

3 кніжкі — 1 зл. 15 гр.

Адна кніжка — 45 гр.

Заграніцу ўдвая даражэй.

Падпіска прыймаецца з кожнага месяца.

Адрэс Рэдакцыі і адміністрацыі:

Вільня, Віленская вул. № 8, кв. 3